Беларусь учора, сёння, заўсёды!



# ВОЛАТ ВОЛАТ



№6
лістапад
2004 года



# У нас эўрапейская краіна

**- Уладзімір Аляксеевіч, сёлета спаўняецца 20 год, як пайшоў з жыцця пісьменнік Ул. Караткевіч. Што можаце сказаць на гэты конт?**

*- Уладзімір Караткевіч для майго пакалення быў апосталам нацыянальнай культуры. Дзякуючы яму, мы, студэнты гістарычнага факультэта БДУ, у 70-ыя гады, насуперак універсітэцкім лекцыям і падручнікам, адкрывалі сапраўдную гісторыю Беларусі як гісторыю эўрапейскай краіны, а не як частку Расеі.*

*Для вяртання беларусам гістарычнай памяці Караткевіч зрабіў больш за ўвесь Інстытут гісторыі Акадэміі навук.*

**- Каго ў сучаснай беларускай літаратуры можаце паставіць на адной прыступцы з Ул. Караткевічам?**

*- Побач з Караткевічам паставіў бы Васіля Быкава. Быкава можна назваць нашым апосталам. Але прырода гэтых двух талентаў была розная. Быкаў адкрыў беларускую душу свету, а Караткевіч, можна сказаць, адкрываў беларусаў ім самім. Безумоўна, Васіль Уладзіміравіч таксама зрабіў шмат для вяртання гісторыі беларусам. Ён расказаў праўду пра гісторыю XX ст.*

**- Вы, як вядома, знаёмы з К. Акулам. Некаторыя літаратуразнаўцы побач з ваеннай прозай В.Быкава ставяць і ваенную прозу К.Акулы. Ці згодны вы з гэтым?**

*- Кастусь Акула належыць да літаратараў нашага замежжа, якія жылі і пісалі творы ў вольным свеце, якія не падлягалі цэнзуры, якія не знаходзіліся ў кіпцюрах таталітарызму. Іх сведчанне, кнігі – вялікі ўнёсак у беларускую літаратуру. Гэта іншы позірк, які робіць карціну стэрэаскапічнай.*

*Калі казаць пра ваенную прозу Акулы, то трэба адзначыць дакументальны раман "Змагарныя дарогі", які быў перавыдадзены ў Беларусі ў 1994 годзе накладам 6000 асобнікаў. Некалькі месяцаў кніга займала першыя радкі ў рэйтынгу на*



Гісторык, пісьменнік, грамадскі дзеяч Уладзімір Арлоў

*старонках газеты "Наша Ніва", а потым знікла з прылаўкаў, бо знайшла сваіх чытачоў.*

**- Вы шмат сустракаецеся з моладдзю. Як Вы думаеце, ці зможа яна сёння паспрыяць адраджэнню беларускай мовы, культуры?**

*- Грамадства - гэта шматслойны пірог. Можна сутыкнуцца з людзьмі, якія апярэджваюць час – бачаць будучыню Беларусі. Але ёсць і людзі, якія знаходзяцца на ўзроўні ледзь не неандэртальцаў. Так і моладзь – розная. Частка яе арыентавана на нацыянальнае адраджэнне.*

*Апошнім часам мае кнігі знаходзяць усё больш і больш чытачоў. Некаторыя кнігі вытрымалі па некалькі перавыданняў. І гэты мой аптымізм трымаецца на вялікай колькасці сустрэч з моладдзю. Тыповыя пытанні я атрымліваю ад іх: як пачаць размаўляць па-беларуску? Як выхаваць беларускае дзіця? І такіх пытанняў шмат. Гэта радуе.*

**- Ці лёгка Вам сёння перавыдаваць старыя і выдаваць новыя кнігі? Узнікаюць якія-небудзь цяжкасці?**

Працяг на стар. 3

# Маленькая сталіца

Сярэднявечныя іншаземцы называлі Беларусь "краінай замкаў". І не здарма. Такія, як Мірскі, абарончыя замкі стаялі на беларускай зямлі праз кожныя 30-40 км. Але менавіта Мірскі вылучаецца сярод іншых тым, што быў першым прыватным замкам на Беларусі.



Мірскі замак. Фота Міхала Куляша

Будаўніцтва яго пачалося недзе каля 1510 года з дазволу маршалка ВКЛ, берасцейскага старасты Юрыя Ілініча. Да ўзвядзення замка было падключана амаль усё навакольнае насельніцтва і найперш- сяляне.

Калі адметнасцю тагачасных замкаў было абараніць горад ад ворагаў, то Мірскі спалучыў у сабе якасці як крэпасці, такі палаца для прыёму князёў. Ён меў больш за 40 пакояў. Усе яны былі багата аздоблены, з элементамі італьянскай раскошы. І гэта не выпадкова. Адзін з яго ўладальнікаў, нясвіжскі князь Мікалай Радзівіл Сіротка, пасля наведвання Ерусаліма, "захварэў" на ўсё італьянскае. Таму і загадаў выпісаць з Італіі майстра-архітэктара, якім з'яўляўся Ян Марыя Бернардоні. Менавіта ён і яго вучні прынялі ўдзел ва ўдасканаленні Мірскага замка. За знешнім валам быў закладзены "італьянскі сад", аранжарэя. Тут змяшчалася каля 400 раслін з розных куткоў свету. Побач нават з'явіўся звярынец, дзе жылі мядзведзі–акадэмікі.

Існуе яшчэ адзін цікавы факт. Кароль Станіслаў Радзівіл, вядомы як жартаўлівы і "непаседлівы" князь, усяляк заахвочваў цыганаў сяліцца ў Міры. Ён нават абвесціў Мір "цыганскай сталіцай", а 22 ліпеня 1778 года зрабіў іх каралём Яна Марцінкевіча.

У 1812 годзе замаку Радзівілаў адабралі за тое, што яны ў вайне з Напалеонам сталі на бок французаў. Але Дамінік Радзівіл паспеў схаваць легендарныя замкавыя каштоўнасці, калі адчуў небяспеку. Вось толькі дзе схаваў, нікому не сказаў, а сам загінуў у адным з баёў. Сярод каштоўнасцяў былі і 12 залатых апосталаў, што мелі амаль чалавечы рост. Колькі іх не шукаюць, але знайсці не могуць.

Далейшыя ваенныя падзеі падрываюць абарончую магутнасць замка. У 1706 годзе яго штурмам узяў Карл XII.

Замак прыйшоў у заняпад. Перастаў працаваць і знакаміты мірскі гадзіннік, які апошні раз у 1686 годзе адрамантаваў майстар Юцэвіч. Апошні ўладальнік замка, Міхаіл Святаполк-Мірскі (памёр у 1938 г.), якога называлі дзікаватым чалавекам, распачаў самыя актыўныя аднаўленчыя работы, дзякуючы якім замак на вачах мяняў сваё аблічча.

У час Вялікай Айчыннай вайны ў замку размяшчалася "яўрэйскае гета". У садзе было расстраляна некалькі тысяч бязвінных ахвяр.

У 2000 годзе Мірскі замак быў унесены ЮНЭСКА ў спіс сусветнай культурнай спадчыны.

***Алесь Гараватка***

# Каляндар

*27 лістапада 1920 года – пачалося ў Слуцку антысавецкае паўстанне, кіраўнікі паўстання прызнавалі ўладу БНР і не прызнавалі ўладу бальшавікоў. Яны змаглі пратрымацца да 28 снежня 1920 года. (Пра Слуцкае паўстанне мы пісалі ў "Волаце" № 1 за студзень 2004 г.)*

***

*28 лістапада 1830 года – пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі. Мэта яго – аднаўленне незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэчы Паспалітай. Пра адну з удзельніц гэтага паўстання – Эмілію Плятэр чытайце на стар.8*

***

*10 (23) лістапада 1906 года – пачала выходзіць газета "Наша Ніва", сваей мэтай яна ставіла нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа, барацьбу за яго прызнанне і раўнапраўе. У ёй друкаваліся Я. Купала, Я. Колас, Цётка, Максім Багдановіч, С. Палуян, Ц. Гартны, А. Гарун, З. Бядуля, К. Каганец, К. Буйло, Ядвігін Ш. і іншыя.*

***



*27 лістапада (9 снежня) 1891 года нарадзіўся паэт Максім Багдановіч. За кароткае, 25-ці гадовае жыцці выйшаў толькі адзін зборнік яго вершаў "Вянок". Вось як напісаў сам аўтар пра гэта:*

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

*А яшчэ ў гэты дзень нарадзіліся трое клясыкаў беларускага мастацтва. 25 лістапада 1908 году нарадзіўся Анатоль Волкаў вядомы беларускі мастак-графік й жывапісец. Ён багата працваў у галіне выяўленчае сатыры, ад палітычнае "Раздавім фашыцкую гадзіну!" да часопіса "Вожык", што куплялі ледзь не ўсе пасажыры беларускіх электрычак. Анатоль Волкаў шмат ілюстраваў і беларускае клясыкі, напрыклад "Новую зямлю" Якуба Коласа, альбо "Міколку-паравоза" Міхася Лынькова, а таксама кнігі Купалы, Багдановіча, Якімовіча... Стварыў таксама сэрыі акварэляў, прысьвечаныя Менску й колькі алейных жывапісных палотнаў...*

***

*30 лістапада 1899 году ў вёсцы Зазыбы пад Віцебскам нарадзіўся Міхась Лынькоў, народны пісьменьнік БССР. Найболыш вядомы яго ныт вор — аповесць "Міколка-паравоз"*





# ГАЗЕТА “ВОЛАТ” – ДЫПЛАМАНТ

Яшчэне такдаўно распачала працу рэдакцыя нашай газеты. Выйшла толькі пяць нумароў газеты “Волат”. Былі яны не вельмі дасканалыя, не зусім удала зробленыя, праскоквалі граматычныя памылкі, хапала няякасных ілюстрацый. Але мы браліся за працу са шчырасцю, з жаданнем навучыць моладзь любіць Беларусь і працаваць на яе карысць.

Нам было вельмі важна адчуваць сваю працу патрэбнай, карыснай. І мы адчувалі гэта з лістоў, якія прыходзілі ў рэдакцыю, на конкурсы. Іх дасылалі нам Надзея М., Максім Ляшкевіч, Анатоль Капцюг, Алесь, Кацярына Гарагашава, Пётр Лавор, Андрэй Собаль. Дзякуй вам, паважаныя чытачы, за падтрымку!

А напрыканцы верасня адбылася падзея, якая яшчэ дадала нам веры, што працуем недарэмна. Таварыства беларускай школы праводзіла другі конкурс вучнёўскіх і студэнцкіх газет. Сярод пяцідзесяці дасланых выданняў з усёй рэспублікі, невядомым чынам апынулася і наша газета. Хто яе даслаў на конкурс, мы не ведаем. Але на гэтым конкурсе, дзе старшынёй журы быў выдатны беларускі паэт Ніл Гілевіч, нашаму выданню “Волат” прысудзілі Дыплом II ступені. Для нас гэта было нечакана і, канешне, прыемна.

У тым, што газета так высока ацэнена, заслуга тых, хто працаваў для яе і дапамагаў ёй стаць якасным выданнем. Дзякуй вам – Алесь Танкевіч, Сяргей Макарэвіч, Валерый Мікалаевіч Рогач, Рагнеда Жук-Грышкевіч, Вольга Аляксандраўна Коласава, Іван Хадзінскі, Верамейка Залежск, Анатоль Валянцінавіч Рогач, Алесь Алесік, Марына Георгіеўна Владыка, Андрэй Каркотка, Карута Вайновіч, Ілона Сцешыц, Антон Жук, Віталь Кастэнка, Алесь Наркевіч, Ганна Уладзіміраўна Кулеш!

Шчыры дзякуй знакамітым, таленавітым людзям – паэтам, пісьменнікам, якія будучы занятымі, знайшлі магчымасць напісаць артыкул для выдання – Вользе Іпатавай, Генадзю Бураўкіну, Радзіму Гарэцкаму, Уладзіміру Арлову.

Асобнае дзякуй Міхасю Куляшу, без якога гэтай газеты наогулне было б.

Дзякуй нашым мінскім сябрам, якія друкуюць нашыя нумары, а таксама Віктару Віктаравічу Вейсу.

І радасці ад пачуцця нашай патрэбнасці не азмрочаць усе негатыўныя моманты, з якімі прыйшлося сутыкнуцца. Нашу дзейнасць не спыняць тыя людзі, якія не жадаюць, каб нашу газету чыталі вучні. Нашай газеце не страшны бруд, які выліла на нас рэдактар газеты “Шлях перамогі” Марыя Кузаўкіна ў нумары за 4 жніўня 2004 года, змяшаўшы ў адно імя Уладзіміра Караткевіча, газету “Волат” і “непахісны аўтарытэт” кіраўніка нашай дзяржавы.




Нягледзячы ні на што, мы будзем працаваць для нашых чытачоў. Мы будзем працаваць для нашай Бацькаўшчыны!

*27.10.2004 г.*

***Рэдактар Аляксей Сюдак***

Працяг, пачатак на стар. 1

*- У кожнай кнізе ёсць свой лёс. “Таямніцы Полацкай гісторыі”, напрыклад, выйшлі чатыры разы, і выйшлі ў дзяржаўных выдавецтвах. Лёс гэтай кнігі шчаслівы. Некаторыя выданні прарываюцца да чытача праз розныя перашкоды.*

*Кніга “Адкуль наш род?” была падтрымана Беларускім Фондам Сораса (як раз у той час, як яго зачынілі). Частка накладу гэтага выдання была арыштавана. Абвінавацілі ў распальванні міжнацыянальнай варожасці. Але, на шчасце, розум перамог і кнігу ўдалося вызваліць.*

*Я шчаслівы, што знайшліся беларускія прадпрымальнікі, якія замовілі і прафінансавалі кнігу “Краіна Беларусь. Люстраваная гісторыя”. Выйшла яна ў адной з лепшых друкарняў Усходняй Эўропы “NEOGRAFIA” у Славакіі. Галоўная ідэя гэтай кнігі заключаецца ў тым, што ў нас, беларусаў, - эўрапейская краіна, а гэта сваесаблівы пропуск у эўрапейскую будучыню.*




Вокладка кнігі “Краіна Беларусь. Люстраваная гісторыя”

**- Над чым працуеце апошнім часам?**

*- Апошняя мая кніга – “Адкусі галаву вароне” – уяўляе сабой падарожныя эсэ, якія я заўжды пішу пасля вяртання з вандровак. Ужо пішацца працяг гэтай кнігі. Адначасова працую над працягам “Краіны Беларусі”.*

**- Дзякуй Вам. Усяго найлепшага.**

***Гутарыў з пісьменнікам Сяргей Макарэвіч***





Бяз тэрміна даўнасці

# "ПАМЯЦІ АХВЯР ТУРМЫ ў Вілейцы

## Замардаваных у чэрвені 1941 г."

***(надпіс на помніку каля в. Касута)***

**30 кастрычніка – штогадовы Дзень памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. У гэты час у Вілейцы праводзілася традыцыйная акцыя ўскладання кветак на могілкі расстраляных за сталінскімі часінамі. Прычыніліся да памінальнай дзеі і прадстаўнікі розных арганізацыяў – АГП, БНФ, ТБМ і людзі паспалітыя – актыўныя жыхары мястэчка Вілейкі. Быў наведаны новы могільнік на Шанхаі, а таксама помнік каля вёскі Касута. Перад удзельнікамі ўзялі слова Зміцер Абразцоў і Аляксей Сюдак і расказалі пра гісторыю ўзнікнення саміх помнікаў. Гэтак, на новых могілках пахаваныя косткі, знойдзеныя пры будаўніцтве анкалагічнай лякарні (на месцы былой вілейскай турмы). Колькі там ляжыць людзей – ніхто не ведае. Вядома толькі, што ў 1994 годзе было**



Запальванне свечак у памяць ахвяраў палітычных рэпрэсій на новых могілках г. Вілейкі. Фота Сяргея Макарэвіча 30 кастрычніка 2004 г.



Помнік растраляным вязням вялейскай турмы ля вёскі Касута ў выглядзе з"яднаных праваслаўнага і каталіцкага крыжоў. Фота Міхала Куляша 30 кастрычніка 2004 г.

**знойдзена і перапахавана чатыры вялікія скрыні. Каля вёскі Касута – крышку іншая гісторыя. Атрады НКУС па загаду перапраўлялі зняволеных з Вілейкі ў Барысаў. Тых, хто не мог болей ісці, расстрэльвалі і закопвалі тут жа, ля дарогі. З тых змрочных падзеяў засталіся і сведкі – некалькі саміх зняволеных, якім пашчасціла ўцячы ад канвіраў і якія і па сёння жывыя. Напачатку 90-х гадоў зрабілі помнік недалёка ад месцаў першых расстрэлаў.**

**На заканчэнне памінальнай дзеі сабраныя разам праспявалі гімн "Магутны Божа" і выказалі гатоўнасць і надалей штогод збірацца дзеля гэтага Дня памяці дый прыцягваць да акцыі як мага болей неабыякавых людзей.**

*Мікола Сусла*

**Удзельнікам мерапрыемства было зададзена адно пытанне: "Чаму вы прынялі ўдзел ва ўшанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій?"**



Фота Міхала Куляша

**Алесь Наркевіч, бард:**

– Гэта была патрэба душы, розуму і здаровага сэнсу. Мы павінны шанаваць продкаў, людзей якія змагаліся за Беларусь. У дэмакратычнай, незалежнай Беларусі, гэта мерапрыемства будзе праводзіцца на дзяржаўным узроўні. Гэта мерапрыемства – павага да нашага прошлага, да гісторыі. Увогуле, гэта проста палюдзку - не забывацца пра тое, што адбывалася.

Па-другое, я удзельнічаў у мерапрыемстве, каб паспрыяць, падтрымаць ініцыятывы вілейскага грамадства, каб яно варушылася, жыло.

Гэта проста патрэбна!!!



Фота Аляксея Сюдака

**Уладзімір Малярчук, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– Нельга забывацца пра тых людзей, якая сталі ахвярамі мерапрыемстваў па масаваму знішчэнню мірнага насельніцтва. У цяперашні час ідуць таксама рэпрэсіі супраць людзей, якія не згодны з уладай. Мы павінны разумець, што гэтыя дзеянні могуць прывесці да таго, што адбывалася ў 1930-40-х г.г. Сваім прыкладам хацелася б паказаць людзям, што трэба супрацьстаяць любым праявам прыгнёту. Трэба дабівацца ўсталявання законнасці.

На абшарах Вілейшчыны

# Камень Пілсудскага ці камень разладу?




Надпіс на камені ўсталяваным у гонар Юзэфа Пілсудскага. Над надпісам была прымацавана выява ордэна «Virtuti militari» якім быў узнагароджаны Кіраўнік Дзяржавы. Фота Аляксея Сюдака

Гісторыя гэта пачалася даўно, у 1935 годзе. У той час Заходняя Беларусь паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 года знаходзілася пад уладай Польшчы. Мяжа паміж БССР і Польскай дзяржавай праходзіла і па Вілейскаму раёну. У вёсцы Будкі (цяпер Хаценчыцкі С\С), якая знаходзілася на тэрыторыі занятай Польшчай, у 1935 годзе была адкрыта школа. Гэта школа была названа імем Юзэфа Пілсудскага. А побач з будынкам школы быў усталяваны камень з надпісам: "Маршалку Юзэфу Пілсудскаму, 1935, які даў Польшчы свабоду, межы, моц і пашану".

Стаяў гэты камень сабе спакойна ажно да 2004 года. А вось сёлета гісторыя атрымала працяг. Польскія дыпламаты, даведаўшыся пра гэты камень, вырашылі яго забраць і паставіць на тэрыторыі польскай амбасады ў Мінску. Яны звярнуўся да беларускіх уладаў, каб забраць камень. А беларускія чыноўнікі тут жа пагадзіліся. Няўжо яны не разумеюць, што гэта – гістарычны помнік, гістарычная спадчына нашага народа? Відаць, не разумеюць альбо не жадаюць разумець.

Адбылося ўсё як у кінафільме "Іван Васільевіч мяняе прафесію", памятаеце:

– Немецкий посол требует, чтобы мы отдали им Кемскую волость.

– Кемскую волость? Всего то? Пускай забирают! А я - то думал! Да пускай забирают!

Але там знайшоўся хаця б, самазванец "князь" Міласлаўскі, які паставіў на месца цара-самазванца Пуншу:

– Ты что же, гад, государственные земли разбазариваешь?

А сярод нашых чыноўнікаў абаронцы інтарэсаў Беларусі не знайшлося – забірайце, калі трэба, і ўсё.

Тут бы сказаць сваё слова Вілейскаму райвыканкаму: "Пакіньце гістарычны помнік на месцы, гэта наша спадчына. У Вілейскім раёне ўжо і так мала помнікаў засталося. Да нас турысты прыязджаць будуць, знаёміцца з нашай гісторыяй". Дыдзе там! Вілейскія ўлады, можа, і не жадаюць, каб вывезлі помнік, але сказаць слова супраць – не хапае духу.

Ды знайшліся неабыякавыя людзі. Яшчэ летам гэтага года камень Пілсудскага быў перавезены на тэрыторыю Вілейскага РЭС па ініцыятыве двух мясцовых краязнаўцаў Анатоля Валянцінавіча Рогача і Яўгена Мікалаевіча Петрыкевіча. Яны разумелі, што ў любы момант абы хто можа прыехаць і забраць валун.



Краязнавец Яўген Мікалаевіч Петрыкевіч каля выратаванага ім каменя Пілсудскага. 8 лістапада 2004 г. Фота Аляксея Сюдака

А ўвосень прадстаўнікі польскай амбасады ўжо прыехалі ў вёску Будкі, каб забраць помнік у Мінск. Зразумела, што яго там не было. Раззлаваўшыся, яны звярнуліся ў Міністэрства замежных спраў РБ за тлумачэннямі, маўляў, беларусы гэтым зняважылі польскі народ.

Пра камень з'явіўся артыкул у "Рэгіянальнай газеце". Гэтым пытаннем зацікавіліся журналісты з радыё "Свабода" і пачалі сваё расследаванне. Пасля гэтага яшчэ адзін наш зямляк, Усевалад Сцебурака, напісаў артыкул у газету "Наша Ніва" і патлумачыў, што помнік ніхто не знішчаў і не краў, але патрыёты, гісторыкі, проста свядомыя людзі Вілейскага раёну супраць таго, каб камень Пілсудскага быў вывезены.

Зараз камень ляжыць на тэрыторыі Раённых Электрычных Сетак. Польскі ж бок не спыняе спробаў забраць гэты помнік сабе. І калі грамадскасць і ўлады горада не скажуць сваё слова ў абарону, мы згубім яшчэ адзін кавалачак нашай спадчыны, як гублялі яе дагэтуль.

Рэдакцыя газеты "Волат" распачынае збор подпісаў супраць вывазу гістарычнага помніка з Вілейскага раёну. Сабраныя подпісы накіруем у Вілейскі райвыканкам, у Міністэрства замежных спраў РБ і ў Міністэрства культуры РБ.

*Аляксей Сюдак*

# ІВАН ЛАШУТКА

**Памёр наш зямляк-паэт Іван Лашутка. Гэты чалавек шмат зрабіў для Вілейшчыны, яго паэзія – высокая і гуманістычная ў сваёй аснове – нясе цяпло і святло, грэючы сэрцы і душы. Рэдакцыя газеты “Волат” выказвае спачуванне роднымі блізкім паэта і смуткуе разам з імі.**

Нарадзіўся Іван Іосіфавіч 10 лістапада 1933 г. у вёсцы Баяры, што на Вілейшчыне. Нарадзіўся ў складаны час – Заходняя Беларусь знаходзілася пад польскай акупацыяй. У верасні 1939 г. у грамадска-палітычным жыцці краіны адбыліся значныя змены. Але змены не ў матэрыяльным, ні ў сацыяльным плане. З гэтага перыяду Іван Лашутка добра запомніў толькі салдат, якія праходзілі на ўскрайку вёскі. А пасля пачалася Вялікая Айчынная вайна, якая не змагла абмінуць бокам сям'ю паэта. З успамінаў паэта: “Быў гвалтоўна інтэрніраваны на прымусовую працу ў Германію мой брат Коля. Вярнуўся жывым, але памятаю, як амаль усё лета выходжвалі яго.

Але найвялікшае гора звалілася на бацькоў за некалькі тыдняў да вызвалення Вілейкі ад фашысцкіх захопнікаў. Аднойчы, ідучы праз вёску, немцы заглянулі ў нашую хату. Яны ўжо збіраліся выходзіць, як на парог убегла мая сястра Лёля. Немцы схапілі яе за рукі і выштурхнулі на двор. Па вуліцы ўжо гналі невялікую групу моладзі, нібы гэта былі злоўленыя партызаны. Так і даставілі яе ў Вілейскую турму”.

Пасля гэтага сястру Іван Іосіфавіч ужо ніколі не бачыў. Толькі праз шмат год ён даведаўся, што Лёлю разам з іншымі людзьмі, фашысты спалілі ў вёсцы Куцькі.


Іван Лашутка.
Фота Сяргея Макарэвіча 10.03.2004 г.

Але вайна скончылася. Трэба было думаць і аб далейшым жыцці. І хлопчык пайшоў вучыцца. Вучыўся спачатку ў прыватнай школе, затым у пачатковай школе ў Баярах. А заканчваў спасцігаць школьную навуку ў дзесяцігодцы ў в. Ілья. У гэты час у раённай газеце ўжо друкаваліся вершы Івана Лашуткі, таму яго адразу запрасілі на працу ў рэдакцыю палітаддзела Ільянскай МТС.

У 1953 г. Іван Іосіфавіч паступіў на філалагічны факультэт БДУ, які скончыў у 1958 г. Пасля вучобы быў накіраваны на працу ў Вілейскі раён. Так ён апынуўся ў в. Латыгаль.

“І трэба ж здарыцца, што тут, у гэтай, забытай Богам і людзьмі вёсачцы, я закахаўся так у сваю вучаніцу, што і сёння я дзякую лёс за гэтую сустрэчу, за тое, што зведаў вялікую міласць – святое пачуццё кахання і вернасці”.

У 1971 г. Іван Лашутка пераехаў у Вілейку, дзе ўладкаваўся на працу ў аддзел народнай адукацыі.

Амаль 20 гадоў напружанай школьнай працы прайшло ў СШ №3 г. Вілейкі. Выкладаў тут Іван Іосіфавіч беларускую мову і літаратуру. Адначасова з'яўляўся завучам школы па навучальнай частцы.

Працуючы ў школе, таксама і пісаў. Друкаваўся ў часопісах “Полымя”, “Маладосць”, у “Настаўніцкай газеце” і інш. А ў 1992 г. свет пабачыў яго першы зборнік вершаў “Свята дваіх”. У 1993 г. гэты зборнік быў адзначаны спецыяльным прызам Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь у галіне паэзіі.

У 1996 Іван Лашутка быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У 2000 г. выйшаў другі зборнік вершаў “Край верасоў”. Верш з такім жа назовам быў пакладзены на музыку. Гэта песня абляцела ўсю Беларусь і заваявала сэрцы шматлікіх слухачоў.

У канцы 2003 г. у свет выйшла кніга Івана Лашуткі “Святло Слова”. Праніклёныя, спавядальныя вершы паэта ўзвышаюць душу, выклікаюць светлыя пачуцці веры ў перамогу сумлення і справядлівасці, сцвярджаюць высокія духоўныя каштоўнасці, да якіх будуць імкнуцца і новыя пакаленні чытачоў.

*Сяргей Макарэвіч*

# СВЯТЛО СЛОВА

**Гэты артыкул быў напісаны Іванам Іосіфавічам Лашуткам спецыяльна для газеты «Волат», друкуецца ўпершыню.**

Ва ўсіх народаў дзіця пазнае навакольны свет з дапамогай ласкавага матчынага слова. Расквечаная мелодыяй калыханкі, а пазней упрыгожаная песнямі майстроў-музыкаў родная мова ўваходзіць у сэрца і душу чалавека. І ў гэтым было ёсць і будзе вялікае прызначэнне роднай мовы для любога народа. Занядбанне яе прыводзіць да бяспамяцтва і гібелі нацыі як пэўнай супольнасці людзей на зямной прасторы. Вось чаму ва ўсім цывілізаваным свеце кожны народ і яго дзяржаўныя інстытуты абараняюць сваю мову пры любым памкненні яе прыніжэння ці збяднення. Беларуская мова сваім слоўнікавым запасам – адна з самых вялікіх і развітых моў свету і дае магчымасць перадаць усе пачуцці чалавечай душы, назвы рэчаў, з'яў і дзеянняў.

Пры ўвядзенні дзяржаўнай адукацыі на роднай мове новае пакаленне і яго наступнікі праз 10-15 год лёгка і радасна вернуць сваю мову, дадзеную нам, як і усім людзям, ад Бога. Што датычыцца іншых моў, важных і дарагіх для кожнага народа, то іх можна вывучыць па меры неабходнасці іх ведання ў жыццёвай практыцы.

**Святло слова**

*Роднае слова, табой я багаты,*
*Ты мне, як сонца, душу сагрэеш,*
*Будзе і на нашай вуліцы свята,*
*І ў светлай радасці родзіцца верш.*

*Каб не кружыліся гора і напасці,*
*Як груганнё, над зямлёй верасоў,*
*Роднае слова – веры прычасце,*
*Ты будзеш жыць і да лепшых часоў.*

*І ўваскрэснеш, прыняўшы на грудзі*
*Боль прыніжэнняў, пагарды і кпін,*
*Час той настане, і дзень гэты будзе –*
*Нашай вялікай бяды напамін.*

*Іван Лашутка*



Сыны Беларусі

# “Я вельмі сумую па Беларусі...”

Кніга “Доўгая дарога дадому” была напісана Васілём Быкавым у 2002 годзе на чужыне. Кніга ўяўляла сабой аўтабіяграфічную аповесць, на старонках якой пісьменнік напісаў свой лёс. Лёс гэты складаны, трагічны, занадта пакуглівы. Але пісьменнік знайшоў у сабе моц, каб адлюстраваць свой жыццёвы шлях такім, якім ён быў на самой справе. Аб гэтай кнізе нельга казаць, што яна была напісана дзеля грошай альбо пашаны - не. Трэба зазначыць, што Васіль Уладзіміравіч зусім не хацеў браццa за новую кнігу. “Доўгую дарогу дадому” ён напісаў з павагі да сваіх сяброў, якія прагнулі новай праўды.

“Васіль Уладзіміравіч доўгі час адмаўляўся яе (кнігу – аўт.) пісаць, - распавёў дырэктар беларускай службы радыё “Свабода” Алесь Лукашук, - але “Доўгая дарога дадому” выйшла. Мы прынеслі яе ў шпіталь. Быкаву спадабаўся яе знешні выгляд – класічная прастата ўяго духу.”



Так, сваю апошнюю кнігу пісьменнік убачыў у шпіталі ў Празе, дзе ён знаходзіўся на аперацыі, ды ідзе жыў апошнім часам.



Васіль Уладзіміравіч Быкаў

Кнігу “Доўгая дарога дадому” называюць мемуарамі. Можа, гэта і так з гледзішча зместу. Але слова “мемуар”, на мой погляд, неяк не стасуецца з прозвішчам Быкаў. Я лічу, што і сам Васіль Уладзіміравіч, калі б быў жывы, адмовіўся б назваць кнігу мемуарамі. Гэта е азначэнне вельмі гучнае. Яно робіць рэкламу аўтару. А Васіль Быкаў быў чалавекам сціплым, ды і патрэбы ў рэкламе не меў. І тым не менш апошняй кнігай класіка амаль не цікавіліся да 22 чэрвеня 2003 года – да смерці “Васількаў жыцце Беларушчыны”, як называў пісьменніка паэт Рыгор Барадулін. “Але сканаў, нас пакінуў сіротамі...”

“Раніцай пасля смерці Быкава чалавек пятнаццаць прыйшлі да адкрыцця крамы. Спецыяльна, каб “Доўгую дарогу дадому” набыць. Разабралі ўсё. Адзін юнак нават не памятаў, як яна правільна называецца. Проста сказаў: “Апошнюю кнігу Быкава...” І турбаваўся ўсё, што подпісу ўжо не атрымаецца ўзяць. Прадалі мы ўсе чатырыста асобнікаў, якія да нас паступілі. Зараз бы яшчэ некалькі соцень не пашкодзілі,” - расказалі ў адной з кніжных крам Менску.

Як ужо адзначалася, “Доўгая дарога дадому” – аўтабіяграфія пісьменніка. Некаторым падзеям нададзена меншувагі, некаторым – больш. На вялікі жаль, а можа, і не, Васіль Уладзіміравіч нічога не напісаў пра час, калі вымушаны быў жыць за межамі Беларусі. Напэўна, яму было балюча ўзгадваць пра той перыяд. Але аднойчы ён сказаў:

“Кожны чалавек павінен жыць дома. Я вельмі сумую па Беларусі, але наўрад ці вярнуся ў бліжэйшы час. Не паехаў бы я ў Германію, паехаў бы зноў у Фінляндыю. Я жыў бы ў Беларусі, як усе людзі, прыстасаваўся. Але я не мог больш выносіць духоўна-палітычнае ганенне”.

Словы гэтыя прагучалі ў Германіі, але датычацца беларусаў.

... Вось ужо мінуў год, як Васіля Уладзіміравіча няма побач. Мінуў пакутны год. Які наперадзе яшчэ будзе ць мень?

*Сяргей Макарэвіч*

Звартоная сувязь

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ...

У рэдакцыю газеты прыйшоў ліст ад нашай пастаяннай чытачкі Надзеі. У сваім творы, а гэта, канешне, твор, яна распавядае, з чым у яе атаясамляецца наш нацыянальны, бел-чырвона-белы сцяг. Прапануем яе разважанні вашай увазе.

Калі я бачу белы колер, у мяне узнікае пачуццё лёгкасці, чысціні, свабоды, незалежнасці. Прад вачыма з'яўляюцца прыгожыя яблокі, на якія я магу глядзець бясконца. Я адчуваю лёгкі ветрык, і нават няма ніякай розніцы: зімні ветрык - альбо летні. Ён лёгкі. Ён падымае цябе пад самыя аблокі... Я бачу белы снег, які пераліваецца на сонейку ўсімі колерамі вясёлкі. Ён скрыпіць пад нагамі, і ты адчуваеш вялікае задавальненне ад гэтага. Увогуле, аб белым колеры я магу размаўляць несупынна. Бо ў ім – моц. Белы змяшчае ў сабе ўсё: пачуцці, падзеі, жаданні...

Чырвоны. Нейкі ён асаблівы гэты колер. Побач з вясёласцю, выразнасцю, прыўзнятым настроем, самымі цёплымі пачуццямі (адно з якіх - каханне) паўстаюць адзін за адным жахлівыя вобразы: войны, барацьба, кроў, нянавісць, смутак, жах... Здаецца, аб сумяшчальнасці гэтых паняццяў нават не трэба казаць, але ж ... Гэта чырвоны.

І вось, калі па белым правесці чырвоную паласу, то можна ўсвядоміць, што свабода немагчыма без барацьбы, незалежнасць - без войнаў...

А калі казаць пра Беларусь, то гэта сімвалізуе іншае. Колькі яна перанесла на сабе пакутаў, бітваў, падзелаў, захопаў, колькі ўладароў перажыла яна! Усе жахі войнаў, ўсю кроў, якой шчодра палілі Беларускую зямлю, – убачыш менавіта ў чырвоным. А ў белым – бясконцыя палі, лугі, лясы. Мноства найпрыгажэйшых азёр, рэк, крынічак... Можа нават паўстаць перад вачыма твае дзяцінства, маладыя гады (адны з лепшых у жыцці; родная маці ды бацька, лепшыя сябры; жыццёвыя настаўнікі: менавіта ты я людзі, якія паказалі табе найвышэйшыя каштоўнасці; людзі, якія заклікалі цябе любіць і шанаваць родную мову, краіну, бацькоў.



Белы, чырвоны, белы... Не, гэта не проста набор колераў. Гэта сімвал, у якім хаваецца ўсё жыццё, якое пачынаецца з самых старажытных вытокаў і ніколі, ніколі не спыняецца. Яго ўжо проста немагчыма спыніць!

*10.10.2004 г.*

# БЯССТРАШНУЮ ЛІЦВІНКУ ЭМІЛІЮ называлі беларускай Жаннай Д'арк

**Напэўна, мы крыху памыліліся, назваўшы гэту рубрыку "Сыны Беларусі", боў Беларусі былі знакамітыя дочкі, якія зрабілі для яе не менш. Гэта і Еўфрасіння Полацкая, і Наталля Арсеннева, і Ларыса Геніюш, і Леся Беларуска, і многія іншыя. У гэтымартыкуле мы паведаемвам пра яшчэ адну беларускую паэтэсу-змагарку, якой мы можам ганарыцца перад усімсветам, пра Эмілію Плятэр. 13 лістапада мы будзем святкаваць198 гадоў з яеДня нараджэння.**



Варварскі захоп расейскімівойскамі беларускіх зямель у канцы XVIII стагоддзя і далучэнне іх да Расійскай імперыі выклікалі на Беларусі магутны вызваленчы рух, які выліўсяв ўзброеныя выступленні патрыётаў. Адным з такіх выступленняў было лістападаўскае паўстанне 1830-1831 гадоў, якое пачалосяў Польшчы і неўзабаве перакінулася на Літву, як называлі тады Беларусь.

Сімвалам мужнасці і самаахвярнасці паўстанцаў стала беларуская фальклярыстка і паэтэса Эмілія Плятэр. Нарадзіласяяна 13 лістапада 1806 года ў Вільні. Жыла яна з матуляй у маёнтку Ліксіна Віцебскай губерні. Змаленства дзяўчынка захаплялася верхавой яздой, паляваннем, навучылася вельмі трапна страляць.

Але яшчэ большым яе захапленнем зрабілася народная паэзія. Як успамінае беларускі этнограф і фальклярыст Максімілян Маркс, у сям'і якога ў Віцебску Эмілія Плятэр была частай госцяй, яна "з запалам, уласцівым чуламу і шляхетнаму сэрцу, з усёй душой аддалася беларускаму люду, ведала яго бядоты, спачувала яму і старалася, як магла, аблегчыць яго долю, збірала і спявала яго песні, шчодра плаціла за іх і сама пісала вершы на іх манер. Іграючы на фартэпіяна, яна умела выдатна перадаваць і вясёлыя, і сумныя матывы народных песень, нават тэмбры жалейкі і басадуды".

На жаль, фальклорныя запісы Эміліі Плятэр не захаваліся, не дайшлі да нас і яе вершы, якія яна пісала на роднай мове. Толькі два радкі з іх падаў у сваіх успамінах М. Маркс. Хутчэй за ўсё гэта ўрывачак з песні-галашэння маці, сына якой забіраюць у салдаты:

*Авой, авой, дзіцюк ты мой!*
*Не нарадасць, не на шчасце ты радзіўся!*

Калі выбухнула лістападаўскае паўстанне, яна не задумваючыся падалася ў шэрагі змагароў за вызваленне Бацькаўшчыны ад расійскай тыраніі. Добрае веданне народа, павага да простага селяніна-беларуса дапамаглаёй вельмі хутка сабраць вялікі паўстанцкіатрад – каля 400 ваяроў. Апрануўшыся юнаком, Эмілія ўзначаліла сабранае ёю паўстанцкае войска, прыняўшы ўдзел у крывавых баях на Віцебшчыне **і Вілейшчыне,** дзе паказала прыклад мужнасці і адвагі. Супраць паўстанцаў было накіравана вялікае, добра навучанае расійскае войска. Прыйшлося абараняцца, сілы паўстанцаў слабелі. Эмілія захварэла, а ва ўмовах партызанскай барацьбы, адступленняў, на холадзе, без медыцынскай дапамогі, яе лёс быў вырашаны. Смерць напаткала 23 снежня 1831 года, калі ёй было толькі 25 гадоў. Сябры пахавалі дзяўчыну-героя каля мястэчка Кацёва, цяпер гэта Капчамесціс, на тэрыторыі Літвы.

Вестка пра гераізм бясстрашнай ліцвінкі, новай Жанны д'арк, як пачалі яе называць разляцеласяпа ўсім свеце. У Парыжы ставіўся спектакль, дзе галоўнай гераіняй была Эмілія Плятэр. Ёй прысвяцілі свае вершы французскія, нямецкія, італьянскія, англійскія, венгерскія, польскія паэты, мастакі пісалі яе карціны.

Пра Эмілію Плятэр не вывучаюць у школе, пра яе беспадстаўна забыліся. А дарэмна – яна прыклад для сучаснай беларускай моладзі, як трэба любіць сваю Бацькаўшчыну, каб у 25 год аддаць за яе жыццё. У назве артыкула аўтар назваў Эмілію бясстрашнай, напэўна, яна усё ж баялася за сваё жыццё, любіла яго, але Беларусь яна любіла больш.

Ігнат Дамейка - паплечнік Эміліі ў паўстанні, які потым эмігрыраваў і стаў нацыянальным героем Чылі, - расказаў пра яе Адаму Міцкевічу. І той стварыў верш пра Плятэр "Смерць палкоўніка":

*На палянцы зялёнай*
*між думных бароў,*
*Дзе пад клёнам*
*хацінка старая,*
*Бы застыў у зняменні*
*атрад ваяроў:*
*Іхні там камандзір памірае.*
*Дык чаму ж твар дзявочы*
*ў байца? Два грудкі…*
*Хто ж мог знаць,*
*што баёў завадатар*
*Быў… Дзяўчынай! Была –*
*слёз не трэба, жанкі –*
*То ліцвінка Эмілія Плятэр!*

(Пераклад с польскай мовы К.Цвіркі.)

***Аляксей Сюдак***

***Выкарыстаны артыкулы з газет "Народная Воля" за 27 сакавіка 2002 года і "Народная Газета" за 5 студзеня 1995 года/Пра Эмілію Плятэр можна прачытаць: Г.Кісялёў. Радаводнае дрэва. Мн., 1994.; В.Швед. Падзеіі постаці Гродзенскай даўніны. Гродна, 1995.***



**Не толькі дзеля сябе нараджаемся на свет, але найбольш дзеля служэння агульнай справе... (В. Карамазаў)**

Наша мова

# ЦВЁРДАСЦЬ МЯККАГА ЗНАКУ

Сёння буйной квеццю развіваюцца розныя правапісы беларускай мовы, зыходзячы з патрэбаў сучаснага беларускамоўнага грамадства, маладых беларускамоўных сем'яў. Мы добра ведаем афіцыйна прынятую наркамаўку, вывучаем яе ў школе, меней – таксваную коласаўку. Але найярчэйшая легенда са сваімі мяккімі знакамі – тара-шкевіца. Назва правапісу паходзіць ад прозвішча Браніслава Адамавіча Тара-шкевіча (нарадзіўся 20 студзеня 1920 года) – вядомага публіцыста, літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, перакладчыка, грамадскага і палітычнага дзеяча. У яго надзвычай багатая біяграфія і трагічны лёс: двойчы яго няволілі і ўрэшце 29 лістапада 1938 года расстралялі.

Мовазнаўствам Тарашкевіч займаўся ўсё жыццё, працаваў над сыстэматызацыяй граматыкі, сінтаксісу нашай мовы. Звяртаю ўвагу на тое, што правапіс – гэта перадача мовы на пісьме, а не сама мова як зьява. Таму выказванні расейскіх імперыялістаў кшталту таго, што "беларускую мову прыдумалі хітрыя нацыяналісты ў 20 веку", разлічаныя на людзей з вельмі сціплымі разумовымі здольнасцямі.

Браніслаў Тарашкевіч таксама пераклаў "Іліяду" Гамера (лёс усяго рукапісу невядомы) і "Пана Тадэвуша" Міцкевіча.

Многія думаюць, што, калі тэкст начыніць, як пірог, мяккімі знакамі, дык гэта і будзе тарашкевіца. Не, мяккі знак – гэта, бадай, апошняя і пасённяя досыць спрэчная рысаў правапісу. Тарашкевіца – гэта і напісанне цалкавага слова, і словазлучэння, і сказу. Гэта пэўныя граматычныя асаблівасці, якія дапаўняюцца і развіваюцца зараз. Не на апошнім месцы сама лексіка. Беларуская мова моцна пацярпела ад наркамаўкі з тае прычыны, што з яе выкідаліся моўныя асаблівасці, якія "не спрыялі збліжэнню братніх народаў". Сучасныя паняткі, тэрміны, назвы стваралісяна ўзор расейскай мовы, класічна славянскай, якая адрозніваецца прынцыпамі словаўтварэння, сказаўтварэння і г.д. ад беларускай, спадчынна балцкай (толькі засмечанай словамі-славянізмамі). У гэтым хаваецца сучасная агіда саміх беларусаў да сваёй мовы, бо наркамаўка не ствараласядзеля таго, каб на ёй размаўлялі (а гэта і не магчыма рабіць без шкоды для псіхікі), а проста дзеля галачкі – маўляў, глядзіце, як савецкая ўлада спрые развіццю нацыянальнай культуры. Сапраўдная беларуская мова нячаста можа быць перакладзеная на расейскую літаральна. Гэта трэба добра ўсведамляць і вучыцца перакладаць сэнс думкі, сказу, а не паслоўна. За гэта тарашкевіца і знаходзіцца ўапале, а не за мяккі знак, як думаюць людзі недасведчаныя.

У тарашкевіцы адлюстраваліся моўныя асаблівасці розных рэгіёнаў краіны. Апроч агульнабеларускай лексікі, у сваіх перакладах Браніслаў Тарашкевіч карыстаўся і дыялектызмамі, і паланізмамі, і русізмамі, а таксама жі ўласнымі наватворамі.



Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч

Ягоная справа крытычна пераасэнсоўваецца, развіваецца і кшталтуецца пасёння. Са скрыпам, але і афіцыйная мова ідзе за зменамі і здабыткамі мовазнаўцаў.

Пытанне мяккага знаку застаецца адкрытым. Ёсць людзі, якія пішуць яго строга па Тарашкевічу. Многія ставяць мяккі знак толькі ў асобных выпадках (напрыклад – зьява заместа з'ява). Пэўна, большасць усё жпіша на коласаўцы (груба кажучы, за асобнымі выняткамі гэта тарашкевіца без мяккіх знакаў).

Пытанне мяккага знаку здымае лацінскі альфабэт, які апроч дазваляе большсцісла і меншгрувастка выказваць думкі па-беларуску на пісьме. Зрэшты і вы, чытачы, маючы жаданне, можаце прычыніцца да справы развіцця сучаснай мовы і правапісу. Ласкава просім дасылаць цікавыя рысы вядомых вам гаворак, а мо і ўласныя наватворы.

*Зэльвэя Андрушкевіч*

Урокі этыкету

## ЯК ПРАВІЛЬНА ЗВЯРТАЦЦА ДА ІНШАГА ЧАЛАВЕКА

*Працяг. Пачатак у №4, красавік 2004 г.*

Таксама не было і нямусіць быць у беларусаў ветлага звароту са словам "вы". "Вы" ўжываецца толькі да гурта людзей. Замест «вы» кажацца "***ваша***"– *да мужчыны і жанчыны, або* "***вашэць***" *(або* "***вашаць***"*) – да мужчыны і* "***вашэця***" *– да жанчыны.*

Прыклады:

Вашэцю пан прасіў ксабе.

Вашэцям прывёз па гасцінцу.

Аддаў бы вашэці, ды сабе трэба.

**Я вашаць, і ты вашаць; хто ж нам хлеба напашаць** (народная прыказка).

**"Ваша"**, **"вашаць" і "вашэця"** паўсталі са звароту "ваша міласць", а тады "ваша мосць". У ангельскай культуры падобна "milord" паўстала з "my lord".

Замест рускага «ваш (сын, конь, дом)" у дачыненні да аднае асобы кажацца **вашэцеў –** калі гэта мужчына, і **вашэцін –** калі жанчына.

Прыклады: тут быў сын **вашэцеў,** дачка **вашэцева,** няма сына **вашэцінага,** дачкі **вашэцінай,** дайце сыну **вашэцеваму,** дачцэ **вашэцевай,** бачыў сына **вашэцевага,** дачку **вашэцеву,** быў із сынам **вашэцінім,** з дачкою **вашэцінай,** была гутарка аб сыну **вашэцевым, аб** дачцэ **вашэцевай.**

Да сваіх бацькоў і дзядоў мы звяртаемся па-іншаму – кажам "**тату**", "**мама**", "**дзеду**", "**бабуля**". **("Як, тату, маецеся?"** і пад.).

Калі мы гаворым пра старэйшых людзей, то ні ў якім разе не замяняем звароты на "ён", "яна", "яны", бо тое ёсць грубасць. Трэба казаць: "**мама казала; тата, дзядуля, вучыцель казаў; бацькі казалі"**, а не **"**яна, ён, яны казала, казаў, казалі"**.**

У дачыненні да іншых сваякоў узвароце мы выкарыстоўваем слова **«самі»: «Як самі маецеся?», «Добра самі кажаце», «Куды самі ідзяце?»,** і г. д. Гэты ж займеннік, **«сам, сама»,** ставіцца і ў адзіночным ліку, што дае адценне большае пашаны, чымся «ты»: **«Як сам маешся?», «Добра сама кажаш», «Куды сам ідзеш?»** і г. д.

**Дзядзька і цётка** абазначаюць брата і сястру бацькаву і матчыну, а дзецьмі ўжываюцца так жа ў дачыненні да іншых сталых і старых людзей.

*Паводле Яна Станкевіча*

Наша аблічча

# “ЛІЦВІНЫ СПАЖЫВАЮЦЬ ШМАТ БАЦВІНЫ”

На зломе 20 і 21 стагоддзяў істотная частка чалавецтва сутыкнулася з праблемай, якую яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму цяжка было нават уявіць, а менавіта — атлусценне. Людзі ядуць шмат і без разбору, ігнаруючы і гістарычныя нацыянальныя традыцыі, і часам нават уласныя звычкі. Падаецца, што свет ператвараецца ў нейкую сюррэалістычную фабрыку ў знішчэнні ежы, дзе людзі, бы робаты, паглынаюць усё, што патрапіць на відэлец.

Ежа, як і ў дагістарычныя часы (калі чалавек яшчэ нябыў чалавекам, а жывёлай), ператвараецца адно толькі ў сввята жывата. Але быў перыяд, калі ежа была і элементам культуры. Менавіта тады, калі чалавек пачаў сымбалізаваць ежу, уключаць яе ў схему сакральных уяўленняў, чалавек стаў чалавекам, індывідуальнасцю, этнасам, нацыяй, рэлігійнай супольнасцю.

Адносна ежы існуюць яркія нацыянальныя стэрэатыпы. Так, немцаў называюць каўбаснікамі, італьянцаў — макароннікамі, украінцаў — салаедамі. Як жа мы, беларусы, сталісябульбашамі? Трэба ўзгадаць, што не заўсёды беларусы былі і беларусамі. Сама бульба зьявілася ў нас у 18-19 ст. і якраз супала са зменай назову нацыі, а традыцыяналісты перакананыя, што і паўплывала на яе.

У розныя часы нас называлі рознымі імёнамі. І самае апошняе і трывалае з іх – ліцвіны. Цікава, але і гэтае найменне было звязанае з канкрэтным ежавым стэрэатыпам: “ліцвіны спажывалі шмат бацвіны”. Вядомая яшчэ калядка пра тое, як ліцвіны прыносяць Езусу бацвінне: “Ах, вы глупыя ліцвіны, ды нясець Езус бацвіння…” Папулярнымі былі і жарты польскай шляхты з літоўскай: “Czy u waszego Radziwila bocvinie sie urodzilo?” Гэтым самым спрабавалі абразіць нашую шляхту тым, што найбагацейшы, найуплывовейшы магнат ня толькі харчуецца бацвіннем, але і вырошчвае яго. Але тым не менш нічога абразлівага тут быць ня можа. Беларусы не зьяўляліся вэгетарыянцамі, спажыванне мяса было дастаткова пашыраным. Але шырока ўжывалася і бацвінне. Прычым бацвіннем называлі ня толькі вяршкі буракоў, але і цыбулю, кроп, пятрушку, лебяду, крапіву, шчаўе. У тыя часы, калі мы былі ліцвінамі і елі бацвінне, мы былі актыўным народам. Ініцыятыўным і з пачуццём годнасці. Нават можам казаць тут і пра агрэсіўнасць – ліцвіны былі здольныя весці ня толькі абарончыя, але і наступальніцкія войны. Парадаксальна, але з таго часу, калі тутэйшы чалавек пачаў масава, рэгулярна ўжываць бульбу, нацыянальны стэрэатып памяняўся. Да таго, што беларус-бульбаш памяркоўны, талерантны, рахманы, можна дадаць яшчэ, што ён бязвольны і абыякавы. Такім чынам, зважаючы на кулінарны аспэкт культуры, можна казаць і пра эвалюцыю нацыянальнага характару. Тым болей, што, як мяркуюць біёлагі, бульба ёсць нечым накшталт наркотыку, бо ўключае ў свае хімічным складзе рэчывы, якія заспакойваюць чалавека, робяць яго менш агрэсіўным, больш памяркоўным.

Трэба сказаць, што сучасная цывілізацыя зацікаўленая ў змене свядомасці этнасаў, нацыяў, народаў. У вялікай ступені гэта звязана з паноўным рынкам. Вядома, для таго, каб смак жуйкі або кока-колы падабаўся як мага большай колькасці людзей, трэба падагнаць чалавецтва пад унівэрсальнае адчуванне смакаў. На нашых вачох адбываецца вайна смакаў, дзе адныя культуры імкнуцца замясціць сабою іншыя.

Можна сказаць, што сучасны свет, які адкрыты да міжнацыянальных культурных кантактаў, размывае і межы нацыянальных кухняў. Шмат беларусаў з задавальненнем ядуць і жабаў па-французску, і кенгуру па-аўстралійску. Прызвычайваецца сучасны чалавек і да сынтэтычных смакаў.

*Падрыхтавала Эмілія Сойка*

Ліст у рэдакцыю

## Нацыст = Нацыяналіст?

Праглядаючы адзін з нумароў штотыднёвіка “Наша Ніва”, знайшоў абвестку пра распродаж кніг па пошце. Вырашыў замовіць некалькі выданняў. Праз пару дзён атрымаў паведамленне з’явіцца на пошту і забраць заказ.

Прыйшоў. Паказаў паведамленне і пашпарт. Мяне накіравалі ў суседняе ваконца заплаціць. Даў грошы і паперку. Як толькі адышоў ад першага ваконца, пачуў сяголас супрацоўніцы:

— Нацысты нейкія. Пішуць Менск – па-старому.

Яна яшчэ абуралася. А пасля прамовіла:

— А можа, бэнэфаўцы якія?

Я не звярнуў на гэта ўвагі. Стала толькі шкада гэту жанчыну. Бо калі чалавек не бачыць розніцы паміж нацыстамі і нацыяналістамі, то гэта проста невуцтва. Але калі чалавек свядома выстаўляе сваё невуцтва напаказ – гэта хамства. Засмучае і той факт, што ўзровень падрыхтоўкі сучасных спецыялістаў у паштовай сферы не адпавядае патрэбным нормам.

*Сяргей Макарэвіч*

Конкурс

## Пераможцы

Скончылася гістарычная віктарына “Старонкі гісторыі”, якую праводзіла наша газета. Пасля падвядзення вынікаў вызначыліся прызёры.

Першае месца заняла Надзея Мініна, вучаніца Вілейскай СШ №3, яна ўзнагароджваецца кнігай “Музей старажытнабеларускай культуры”, у якой сабраны ілюстрацыі шэдэўраў жывапісу, скульптуры, керамікі, апрацоўкі металу, беларускія народныя касцюмы.

Другое месца заняў Андрэй Собаль, вучань Вілейскай СШ №3, і ён атрымоўвае прыз – кнігу Уладзіміра Караткевіча, у якой сабраны яго аповесці “Сівая легенда”, “Ладдзя роспачы”, Маці Ветру”, “Зброя” і вершы.

Трэцяе месца заняў Максім Ляшкевіч, вучань Сцешыцкай СШ. Ён атрымоўвае у якасці прыза добра ілюстраваную кнігу Міхася Чарняўскага “Дзесяць бітваў”, у якой апісаны лепшыя бітвы, у якіх перамаглі нашы продкі, баронячы сваю Бацькаўшчыну.

Паважаныя пераможцы, жадаем вам далейшых творчых поспехаў!!!




*Рэдакцыя*

# ПАЭТЫЧНЫ ДЭБЮТ



Сяргей Макарэвіч. Фота Міхала Куляша

**Выносячы свае вершы на шырокую публіку, я адчуваю сябе ніякавата, збянтэжана. Я ня ведаю, як людзі, з якімі я жыву побач, усё ўспрымуць. Дый увогуле, ці дойдзе да іх тое, што я самуклада ў у гэтыя радкі. Я не прэтэндую на званне паэта, на тое, каб маё імя гучала нароўні з светлай памяццю Івана Лашуткі і Уладзіміра Весялухі.**

**"Я люблю..." – спявае Кася Камоцкая. Я таксама люблю – люблю Беларусь, родную зямлю, беларускую мову, родныя рэкі, лясы, неба... Але ёсцы катэгорыі рэчаў, якія мне не да спадобы. Гэта, найперш, чалавечыя заганы: няшчырасць, прагавітасць, дурасць... Не люблю абыякавых людзей. А яшчэ я ненавіджу. Ненавіджу ворагаў, што паўсталі на маім шляху да беларушчыны.**

**Вось пра ўсё гэта (і не толькі) мае вершы.**

***

*Што нам здабылі дзяды,*
*Ці ўспомніць хто?*
*Дзеля чаго яны гінулі,*
*Дзеля каго?*
*Жывымі клаліся яны ў зямлю,*
*А ўнукі і не помняць гісторыю.*
*Што зрабілася? Як сталася?*
*Дзеці прадзедаў забыліся.*
*Да ворагаў падаліся.*
*Беларусі пазбыліся.*
*Зямля крывёю паліта –*
*Для нашчадкаў успамін.*
*Пра гады ліхія, пра забітых*
*Ім напамін.*
*А што яны помняць сёння – ману.*
*А хто давядзе іх да праўды цераз хлусню?*
*Што зрабілася? Як сталася?*
*Дзеці прадзедаў забыліся.*
*Да ворагаў падаліся.*
*Беларусі пазбыліся.*

***

*Колькі братоў маіх і сясцёр*
*Кулі скасілі жвава?*
*А колькі за іх атрымаў медалёў*
*Кат, што страляў у іх?*
*Яма...*
*Яма на ўсё мае адказ,*
*Нават на тое – хто каты.*
*Але ж агмень сумлення згас,*
*А інакш не клялі б... Курапаты...*





***На Чорных лядах***

*Нагадайце дзецям сваім*
*Пра паўстанне на Слуцкай зямлі.*
*Узгадайце вы ім аб былым:*
*Усіх забілі там бальшавікі.*

*Давядзіце ў касцёлы і цэрквы*
*Ды пастаўце сьвечы памерлым.*
*Слуцкі збройны чын быў ня белым,*
*Ня чырвоным, а чалавечым.*

**Краю мой...**

*Краю мой, краю!*
*Я сумную песьню зайграю,*
*Каб зьведалі ўсе празяе*
*Аб пакутах тваіх, аб табе.*

*Краю мой, краю!*
*Сьпяваць не магу, ды-ж сьпяваю.*
*Не магу цябе пакінуць і я,*
*Хаць, усё роўна, пустая зямля.*

*Краю мой, краю!*
*Няўжо цябе я губляю?*
*Ці цураюся цябе?—Не!*
*Дык навошта пакідаеш мяне?*

*Краю мой, краю...*



**Здраднікам**

*Хацеў ты ўслужыцца ўсім:*
*Палякам, немцам, маскалям.*
*Ды толькі не заўважыў у тым*
*Ты здрады суайчыньнікам-людзям.*

*Таптаў ты іх нія палеткі*
*Ды забіраў апошні хлеб.*
*І маткі плакалі, прасілі дзеткі,*
*А ты ўскрыкваў толькі: "Нет!"*

*Пад польскаю навалай жвава*
*Ты абдзіраў гаротны люд.*
*Заўжды крычаў: "А мне ўсё мала,*
*А мне ўсё мала, мала тут!"*

*Пасьля, калі прыйшлі германцы,*
*Ня змог ты ўтрымацца зноў.*
*Паддаўся зманлівай ліхаманцы,*
*Ня апрытомеў ад ліслівых слоў.*

*І ўбачыўшы, што бой прайграны,*
*Ты вырашыў перад канцом*
*Вярнуцца да Радзімы-Мамы...*
*Ня прабудзіўся, бо то—ня сон.*

# Генерал-вызвольца

## (Да 90-годдзя пачатку першай сусветнай вайны)

Баланін Дзмітро Васільевіч – гэта імя Вам пра нешта гаворыць? Думаю, нямногім. А гісторыя памятае Ўсё. Гісторыя рана ці позна распавядзе, калі не сучаснікам, дык іх нашчадкам Усё. У памяці людзей, у манументах і кнігах праступаюць запісы Гісторыі – урыўкавыя, не расшыфраваныя да канца, і з таго кожны прачытае ў іх тое, што жадае прачытаць.


Лейб-гвардыі Сямёнаўскі полк. Гістарычны клуб

Другая Айчынная вайна... Менавіта так у 1914 г. назвалі распачатую вайну. Потым у 1918 г. яе сталі зваць сусветнай, а пасля 1941 г. – першай сусветнай. У апошнія 60 гадоў падзеі з фашысцкай Германіяй засланілі баталіі той далёкай вайны. Дый у Расеі да ўлады прыйшлі бальшавікі, і для іх першая сусветная не была айчыннай, а толькі імперыялістычнай бойняй, “войной воров за добычу”, як сказаў Ленін. Але тады, у 1914-м, гэтую вайну сустрэлі з уздымам. Анягож! Салдаты і афіцэры ішлі ваяваць за свабоду балканскіх народаў, на дапамогу саюзнікам, якія зняслільна трымаліся на поўначы Францыі, адыходзілі да Парыжа.

У пачатку вайны стварылі новыя часткі, у тым ліку і 27-мы армейскі корпус, камандзірам якога, як аднаго з лепшых, 2 верасня 1914г. прызначылі Баланіна. А 10 кастрычніка корпус быў перакінуты ў склад Прынараўскай групы, якая бараніла Варшаву з боку Усходняй Прусіі. 32-й арміяй корпус Баланіна прымаў удзел у Варшаўска-Івангародскай і Лодзінскай аперацыях і шмат садзейнічаў іх поспеху. За добрае кіраўніцтва корпусам 6 снежня Дзмітра Васільевіча рангуюць у генералы ад інфантэрыі (поўны пяхотны генерал).

У 1915-16 гг. 27-ы корпус уваходзіў у 1-ю і 2-ю арміі і дзейнічаў на Паўночна-Заходнім, Паўночным і Заходнім франтах. За гэты час корпус прымае ўдзел у аперацыі па ліквідацыі Свянцянскага прарыву (часткай якой быў бой за Вілейку), а таксама ў Нарачанскай наступальнай аперацыі. Гэтна 27-ы корпус усклалі задачу: вызваліць Вілейку ад войскаў Кайзера. На дэталях самога бою можна не спыняцца. Ён добра апісаны ўласна Баланіным у артыкуле «Вилейка. Бой 10 сентября 1915 года (25 верасня па н.с. В.К.)», апублікаваным у часопісе “Военный сборник” №10 за 1916 г., а таксама ў працы старэйшага навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея Вольгі Коласавай, апублікаванай у газеце “Шлях Перамогі” за 20 верасня 2000 г. Цікаўныя падрабязна азнаёміцца з матэрыялам могуць звярнуцца да іх.

Вышэйпамянёны Баланін Дзмітро Васільевіч нарадзіўся 26 лістапада 1857 года. Адукацыю атрымаў ва Уладзімірскай Кіеўскай ваеннай гімназіі. Пасля гэтага вучыўся ў 2-м Канстанцінаўскім вучылішчы. Як адзін з найлепшых рангаваны ў афіцэры ў лейб-гвардыі Сямёнаўскі полк у 1876-м. Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877-78гг. У 1882-м. скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба па 1-му разраду, што гаворыць пра яго нешараговыя здольнасці. Права пастунаць у гэну акадэмію давалася толькі раз за афіцэрскую біяграфію. То бок, паспытаць свой лёс шчаслівуца мог толькі аднакроць. Паступаць двойчы – выпадак вельмі рэдкі.

Вучоба ў акадэміі цягнулася 3 гады і давала грунтоўныя веды ў рэчышчы ваенных навук. Аб узроўні адукацыі гаворыць такі факт, што пры атрыманні хаця б адной дрэннай адзнакі слухач зараз жа адлічваўся. Пад увагу не прымаліся ні тытулы, ні баявыя ўзнагароды. Не шкадавалі нават прывеліяваных гвардэйцаў з палкоў сталічнага гарнізона з іх вядомымі прозвішчамі і сваяцкімі сувязямі пры імператарскім двары. Далей лёс такіх афіцэраў быў незайздросным. Яны вярталіся на папярэднюю службу з прыгнечанай псіхікай і пячаткай няўдачнікаў у вачах камандзіраў.

Пасля акадэміі Дзмітро Васільевіч працягваў службу ў штабе Кіеўскай ваеннай акругі, затым з лістапада 1882г. па студзень 1888г. – памочнік старэйшага адзьютанта штаба Кіеўскай ваеннай акругі. У 1884-85 гг. камандаваў ротай 130-га пяхотнага Херсонскага палка (дыслакацыя ў Кіеве). З 1888 года – штаб-афіцэр пры кіраванні 9-ай мясцовай брыгады, а з верасня 1889 – старэйшы адзьютант штаба Кіеўскай ваеннай акругі. З 1890 па 1897 год - памочнік справаводцы старэйшага аклада Канцэлярыі Ваеннага міністэрства. Тады ж камандаваў батальёнам 14-га стралковага палка (дыслакацыя ў Адэсе). У той жа год – справаводца Канцэлярыі Ваеннага міністэрства. З 1902-га – начальнік штаба 21-га армейскага корпуса. З 1904-га – генерал-кватэрмейстар Кіеўскай ваеннай акругі. Затым рангаваны ў генерал-лейтэнанты і прызначаны начальнікам 18-й пяхотнай дывізіі (дыслакавалася ў Любліне), з якой пайшоў на першую сусветную вайну разам з 14-м армейскім корпусам 4-й арміі.

З канца 1916 Баланін камандаваў 11-й арміяй Паўднёва-Заходняга фронта. Пры планаванні кампаніі 1917г. на яго армію быў ускладзены напад на Львоў у абыход з поўначы на Злочэў. Аднак ён так і не адбыўся. 5 мая 1917 г. Баланін быў зняты з камандавання і пераведзены ў запас пасадаў пры штабе Кіеўскай ваеннай акругі, а 4 мая звольнены ў адстаўку з мундзірам і пенсіяй. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пайшоў на службу ў Чырвоную Армію. Далей лёс гэтага чалавека застаўся невядомым.

*Андрэй Каркотка, гісторык*

Гістарычны факт

# Вілейшчына ў гады І-й сусветнай вайны

Працяг. Пачатак у №№ 3-5.

Сведкам уцёкаў з Даўгінава падчас наступлення немцаў мясцовых чыноўнікаў, да якіх простыя людзі адносіліся з непрыязню, быў жыхар в. Мікуліна Станіслаў Сяліцкі. Пазней ён быў прызваны ў дзейную армію, ваяваў у складзе 84 пяхотнага палка ў Галіцыі. З сабой на фронт узяў два томікі паэзіі Францішка Багушэвіча. У часы зацішша не толькі чытаў іх, але і сам спрабаваў пісаць на манер славутага паэта. Адзін з такіх вершаў паслаў на радзіму. Ваенная цэнзура ўстанавіла аўтарства, але ўсё ж дазволіла дайсці пісьму да адрасата.

Вось якія іранічныя радкі дайшлі да нашага часу. Стыль напісання і арфаграфія аўтара пакінуты без змянення. Цытуецца па Ф.Сяліцкі "Регіон Даўгінаўска-Будслаўска-Крывіцкі на даўняй Вілейшыне". Варшава-Врацлаў, 1989г.

*Было дзела ў нас дома, перад самым Спасам,*
*Як дарог бывала многа, праз палі, а дзе мяжой.*
*Як даўгінаўска начальства (толькі званнем яны)*
*Пакідалі ўсе чыста, захваціў з сабой штаны.*
*І бягом так безагляднi, выжымая пот і сок,*
*Моўчкам, ціха, паняволі, беглі проста на васток.*
*Як смяшна была карціна, аж сказаць я не магу,*
*Толька бедных мужычонкаў прыдзяржаў хтось за нагу*
*І яны засталісь дома перажыць вялікі страх,*
*Ну баяліся пажару, што паліў усё ў прах.*
*Парабілі сабе землянкі пахожыя на акоп,*
*Каб у цяжкую мінуту зберагчы хоць бы свой лоб.*
*Адзежу і зярняты закапалі ў зямлю,*
*Кабі трохі не дасталась ядавітаму змяю.*
*Бо ён гад пракляты, злосны забіраў што толькі мог,*
*Ну за тож яму ні трохі непамог навіт і Бог.*
*На Сіўчыну бабы і дзеўкі, каб не мець із ім бяды,*
*Кажды божы вечарочак шлі, не знаючы куды.*
*Я за ўсім гэтым слядзіў, пакуль мяне немец не схваціў.*
*А тады было мне мук уцячы з яго рук.*
*А цяпер мае суседзі, Вы жывіце ўсе ў даму,*
*А праклятаму ваяку я і за Вас атамшчу яму.*

Вярхоўны Галоўнакамандны рускай арміі Мікалай II у загадзе да арміі і флоту пісаў: "У нядаўнія дні я вітаў некаторыя палкі на праслаўленых вераснёўскімі баямі палях Маладзечна і Вілейкі. Я сэрцам адчуваў гарачае імкненне да канца выканаць свой святы абавязак – абароны Радзімы".

Горад Вілейка і ваколіцы сталі прыфрантавымі. Тут размясціўся армейскі корпус, былі пабудаваны склады забеспячэння войск. Насельніцтва прылеглых да лініі фронту мясцовасцей па патрабаванні камандавання арміі пакінула свае хаты і маёмасць і ператварылася ў бежанцаў. Некаторыя сем'і пераехалі ў бліжэйшы тыл да сваіх сваякоў і знаёмых, іншыя апынуліся далёка ў Расіі. Тут, як бежанцы, яны атрымоўвалі ад мясцовых улад дапамогу: (пайкі) хлебам і крупамі, соль і цукар, але вельмі мала. З 1916 года цукар стаў рэдкасцю, сялядцы зніклі зусім, нават у Вілейцы і Куранцы цяжка было купіць газу, скуру на абутак і г.д. Прыгэтым усе мужчыны прызыўнога ўзросту былі мабілізаваны і накіраваны ў франтавыя або тылавыя часці рускага войска.

Калі ў 1914 годзе ўсе школы яшчэ працавалі, то ўжо на наступны навучальны год многія з іх былі зачынены з прычыны мабілізацыі настаўнікаў або занятасці іх памяшканняў пад патрэбы арміі. У час зацішша ад ваенных дзеянняў многія палкі адводзілі ў тыл для адпачынку. Тут яны кватэравалі ў мясцовых сялян. Апошнія вучыліся ў іх культуры. На вокнах з'явіліся фіранкі, якіх дагэтуль не было. Лапці пачалі замяняць ботамі і чаравікамі. У салдат можна было шмат чаго дастаць на абмен.

Арганізаваныя яшчэ раней сельскагаспадарчыя гурткі пачалі займацца дабрачыннасцю – дапамагалі матэрыяльна сем'ям, з якіх мужчын забіралі ў армію, прымалі ўдзел у правядзенні імі работ на пасяўной, пры ўборцы ўраджаю і т.п. Так Ільянскі гурток выдзеліў такім сем'ям 128 пудоў жыта на пасяўную, а таксама больш за 380 пудоў сена, 560 пудоў саломы і іншага фуражу.

У чэрвені–ліпені 1915 года ў некаторых гарадах, у тым ліку і Вілейцы, былі адкрыты аддзелы Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, якія мелі права весці работу незалежна ад цэнтра. Таварыства арганізоўвала пункты харчавання, сталовыя, інтэрнаты, імкнулася аказаць медыцынскую дапамогу бежанцам. Такія пункты працавалі ў Вілейцы, Даўгінаве, іншых месцах павету.




Ілюстрацыі часоў першай сусветнай вайны «Вайна Расіі з Германіяй і Аўстрыяй».
http://www.warposters.narod.ru

Наступленне на гэтым напрамку спынілася.

На пачатку кастрычніка 1915 года фронт стабілізаваўся на лініі Дзвінск-Смаргонь-Баранавічы-Пінск, куды ўвайшла паўночна-заходняя частка мяжы тэрыторыі цяперашняга Вілейскага раёна, пасля чаго абодва бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны.

Напярэдадні новага, 1916 года,

Працяг будзе

Анатоль Валянцінавіч Рогач,
краязнавец





Музейная справа

# Музей у гімназіі №2

Музей воінаў-інтэрнацыяналістаў быў створаны ў 1992 годзе настаўнікам Іосіфам Іосіфавічам Маціюном, непасрэдны ўдзел у ягоным стварэнні прымалі яго вучні.

Створаны гэты музей дзеля таго, каб вучні ў кантэксце вывучаных тэм пра Афганістан маглі больш падрабязна пазнаёміцца з гісторыяй сваіх землякоў, якія ваявалі на "гарачай зямлі". Менавіта гераізму мінулага дзеяння хопіць для выхавання ў сучаснай моладзі патрыятызму.

У час чарговай даты, вываду войск з Афганістана, у школьным музеі праводзіцца шмат экскурсій. У старэйшых класах іх вядзе настаўнік гісторыі Іосіф Іосіфавіч Маціюн, а ў малодшых яго выхаванцы. Выхаванцы Іосіфа Іосіфавіча праводзяць экскурсіі таму, што маюць вялікую цікаўнасць да гэтай "балючай тэмы".

Я таксама з'яўляюся экскурсаводам у музеі. Стала я праводзіць экскурсіі, бо для мяне – гэта вельмі добрая практыка і вялікі "куфэрак" ведаў. Дарэчы, я вельмі люблю гісторыю і разумею боль родных і блізкіх загінулых у Афганістане. У час таго, як вяду чарговую экскурсію, гісторыя кожнага загінулага воіна-інтэрнацыяналіста болем накладае адбітак на маё сэрца. Дапамагаюць мне ў маёй справе сяброўкі: Гапановіч Дар'я і Кухцінская Вольга. Яны захапляюць слухачоў цікавымі фактамі афганскіх падзей.




Стэнд з мапай Рэспублікі Афганістан, дзе прыйшлося ваяваць нашым землякам. Фота Аляксея Сюдака

У нашым музеі прадстаўлены стэнды (экспанаты), прысвечаныя героям, якія ваявалі ў Афганстане (М.Каляда, Р.Маціюн, П.Петрашэвічі інш.). Таксама можна больш падрабязна азнаёміцца з гісторыяй самой краіны Афганістан. Некаторыя рэчы, што знаходзяцца ў нашым музеі, прыносілі блізкія загінулых ці тыя, хто застаўся жывы, і яны лічаць неабходным азнаёміць новае пакаленне з падзеямі мінуўшчыны.



Абгарэлыя дакументы з кішэні загінуўшага ў Афганістане вілейчаніна. Фота Аляксея Сюдака

Водгукі пасля праведзеных экскурсій заўсёды добрыя. Магчыма, малодшым дзецям і цяжка зразумець увесь трагізм, але старэйшыя заўсёды слухаюць з захапленнем.

На мой погляд, музей – вельмі важная частка нашай гімназіі, нават нашага горада. Я лічу, што ён выхоўвае павагу да сваёй краіны, сваіх людзей і павагу да другіх краін, у якіх свая культура і сваё жыццё, свае традыцыі.

Слухаючы экскурсіі, разумееш, што на долю нашых людзей выпала шмат выпрабаванняў і цяпер нам, новаму пакаленню, трэба рабіць усё, дзеля таго, каб свяціла яснае сонейка, было блакітнае неба і ўсмешкі на тварах людзей.

*Ілона Сцешыц,*
*вучаніца Гімназіі №2*

# Адказы на першы тур віктарыны

**Скончылася віктарына «Старонкі гісторыі». Прадстаўляем вашай увазе адказы на пытанні 1-га тура.**

1) Магдэбургскае права – права горада на самакіраванне – упершыню ўзнікла ў 13 стагоддзі ў нямецкім горадзе Магдэбургу і хутка пашырылася па Еўропе. А Брэст (Бярэсце) атрымаў гэтае права ў 1390 годзе.

2) Востраўскае пагадненне заключана 5 жніўня 1392 года ў мястэчку Востраў каля г.Ліды паміж польскім каралём Ягайлам і князем Вітаўтам. Паводле ўмоў пагаднення Вітаўт станавіўся вялікім князем ВКЛ і княству гарантавалася самастойнасць у саюзе з Польшчай.

3) У верасні 1817 г. Студэнты віленскага ўніверсітэта, дзе вучылася пераважна беларуская шляхецкая моладзь, утварылі таемнае згуртаванне, якое назвалі Таварыствам філаматаў (аматараў навук). У яго ўвайшлі самыя таленавітыя маладыя людзі, імёны якіх потым сталі шырока вядомымі ў свеце. Галоўныя мэты, які ставілі перад сабою філаматы – асвета роднага краю. Яны вывучалі прыроду, гаспадарку, этнаграфію, фальклор, мову Беларусі, выдалі спецыяльную інструкцыю "Геаграфічнае апісанне". Патрыятычная дзейнасць філаматаў была перапынена ў 1823 г.

4) Беларускай Жаннай Д'арк называлі ўдзельніцу паўстання 1863-64 гг. Эмілію Плятэр. Яна стварыла свой атрад і ваявала пераапрануўшыся мужчынам. Загінула ў 25 гадоў.

5) БССР на роўні з УССР вельмі пацярпела ад В.А.в, гэтыя рэспублікі зрабілі вялікі ўнёсак у разгром фашыстаў. Таму 27 красавіка 1945 года БССР стала адной з краін заснавальніц ААН.

6) Тадэвуш Рэйтан нарадзіўся ў маёнтку Грушаўка ў сям'і шляхціца. Выступаў супраць падзелу Рэчы Паспалітай. На Сойме 1793 г. усімі магчымымі і немагчымымі спосабамі намагаўся сарваць рашэнне аб падзеле Р.П. Нічога не дапамагала, бо ўсе дэпутаты былі падкуплены Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Тады Рэйтан упаў наўзнічі крыкнуў такія словы: "Тапчыце мяне, але не чапайце Бацькаўшчыны". За яго паводзіны нават рускія вайскоўцы паважалі яго і казалі: "У Рэчы Паспалітай ёсць толькі адзін сапраўдны патрыёт – Рэйтан". Ад перажыванняў Рэйтан захварэў і быў адвезены ў Грушаўку. Там убачыўшы ў двары рускіх салдат, ён не вытрымаў і скончыў жыццё самагубствам.





# ТОЕ-СЁЕ ЗЬ МІНУЛАГА

А гэтым разам, дарагія чытачы, яраспавяду вам яшчэ адну гісторыю, што адбылася ў вёсцы Аўсянікі падчас меліярацыі балота, з якога пачынаецца рэчка Кабылянка, што ўпадае ў Вілію. Перад закладкай дрэнажных трубаў па хатах вяскоўцаў хадзілі два дзядзькі. Адзін – прадстаўнік саўгаснай канторы, другі – дэлегат ад ПМК-23, якая вяла асушальныя работы. Мужыкам ды кабетам паказвалі план-праджэкт, ды на ўсе лады расхвальвалі-распісвалі, як будзе добра, калі тыя землі асушаць, апусціўшы ўзровень грунтовых водаў. За ўсю гісторыю існаваннявёска і балота жылі-сужываліся мірна ды разумна. Ды мужыкі даўно прызвычаіліся, што на ўскрайку балота былі здавён добрыя сенажаці, а само балота давала ўраджай журавін ды кораня валяр'яны. Таму ўсе, як адзін, былі супраць асушэння. Калі людзям сталі даводзіць нейкія саюзныя харчовыя праграмы, дык яны пярэчылі, што павысыхаюць студні, вада апусціцца ніжэй, будзе цяжэй цягаць яе жураваміды ланцугамі. А вяскоўцам адказвалі, што, маўляў, не вялікія паны, сходзіце да суседзяў. Хто жыў у вёсцы, той зразумее ўвесь абсурд сітуацыі. Як гэта, маючы ўласную студню ды ісці па ваду да суседа? Многія палічылі гэта за нахабны здзек з людзей і прыроды. Тады начальства пачало адкрыта страшыць народ: хто не пагодзіцца на асушэнне, той – вораг, бо выступае супраць партыйных рашэнняў. Гэта ўжо было сурьёзна. Таму мужыкі, сціснуўшы кулакі да хрусту, усё ж вымушаны былі пагадзіцца. Бо пачуваліся моськамі супраць савецкага слана.

Але стоены супраціў не-не ды прарываўся жудаснымі падзеямі. Вагончык меліяратараў разы са два згарэў дашчэнту разам з п'янымі трактарыстамі. Міліцыя цягала людзей, вышукваючы, хто падпаліў, але марна. Тэхніка таксама рэгулярна псавалася невядомымі. Ды цяпер ужо няма ў жывых ні тых, хто гэта рабіў, ні тых, хто ведаў.



А балота тое пакрысе зарастае хмызняком. У добрыя гады трава расце там на дзіва высокая ды густая. Прырода патроху загойвае раны, нанесеныя неразумнымі людзьмі, і міжволі прыгадваюцца радкі з песні гурта "Зямляне": "Даруй, Зямля, мы яшчэ ўсё расцём, сваіх дзяцей, прабачза ўсё, за ўсё". Зямля-то даруе, але вельмі яшчэ няскора. Ды вы самі, дарагія чытачы, маглі б прывесці і свае прыклады-ўспаміны аб тым, як бязглузда і неабачліва руйнавалі прыроду вашай малой радзімы. Гэтыя горкія ўспаміны заўсёды будуць добрым урокам тым, хто атручаны ўстаноўкамі-стэрэатыпамі: "пасля нас – хоць патоп", "на наш век хопіць, а там, хоць трава не расці" і г.д. Так думаць і рабіць можа толькі той, для кагоі гэта зямля не свая, хто тут часовы, хто не гаспадар. А калі гэта наша зямля, наш дом, дык мы проста абавязаны ставіцца да прыроды абачліва, беражліва, гаспадарліва, каб засталося дабро ня толькі нам, але дзецям, унукам, праўнукам і ўсім нашнадкам. Бо нацыянальныя адметнасці беларусаў фармуюцца менавіта асаблівасцямі мясцовай прыроды, клімату, ландшафту. Захаваем нашу зямельку - застанемся і мы, як народ. Дай Божа сіл і магчымасцяў. Хай будзе так.

*Алесь Алесік, рабочы з-да "Зеніт"*

Наша аблічча

# Як быў напісаны нацыянальны гімн "Магутны Божа"?

Сапраўдная назва верша – "Малітва".

Калі стваралася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, да паэткі Наталлі Арсенневай звярнуўся архібіскуп Філафей з просьбай напісаць верш, які б мог стаць беларускай малітвай. Паэтка напісала такі верш Але Сінод не зацвердзіў яго ў якасці малітвы. Маўляў, верш замала рэлігійны і зашмат палітычны, занадта беларускі. У кіраўніцтве Беларускай аўтакефальнай царквы тады было толькі некалькі беларусаў. Астатнія расейцы. Ім малітва і не спадабалася.


Наталля Арсеннева

На музыку верш паклаў Мікола Равенскі. На Беларусі "Малітва" з'яўляецца неафіцыйным нацыянальным гімнам.

*Альяс*

Конкурс

## Чым трэба ганарыцца беларусам?

**Прапануем Вашай увазе лісты, дасланыя чытачамі на конкурс «Чым трэба ганарыцца беларусам?». Магчыма яны дапамогуць убачыць прыярытэты ў жыцці, пакажуць, што з"яўляецца сапраўднымі каштоўнасцямі для нашых суайчыннікаў.**



Мы – беларусы, і нам у першую чаргу трэба ганарыцца тым, што мы маем родную мову, мілагучней якой нічога няма на свеце. Мы павінны ганарыцца роднай зямлёй, на якой вялікае мноства месцаў некранутай прыроды, якая мае незвычайную прыгажосць. Зямлёй, на якой нарадзілісятыя, хто ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню сваёй Радзіме дзятаго, каб мы – іх нашчадкі – жылі ў незалежнай краіне, назва якой – Беларусь! Я нарадзілася і жыву на роднай зямлі, і нішто не можа быць для мяне даражэй. Вось гэтым ганарусяя і лічу, што ганарыцца і даражыць трэба менавіта самым неацэнным скарбам, як Незалежнасць Радзімы!

*Надзея М.*

* * *

Беларусам трэба ганарыцца тым, што на працягу 400 год засілля, спачатку польскай, затым расійскай моваў, зберагглі родную беларускую мову і сваю самабытную культуру. І сёння, пры рознасці светапоглядаў і рэлігійных канфесій, мова аб'ядноўвае нас у адзіны народ – БЕЛАРУСЫ.

Дадатак: трыялет, напісаны гады два таму.

*Беларуская мова*
*Удзел сялян і паэтаў*
*Цеплынёй іх сагрэта*
*Беларуская мова.*
*Прызнаная светам,*
*Занядбана часова.*
*Беларуская мова*
*Удзел сялян і паэтаў.*

*Анатоль Капцюг*
*Вілейка*

* * *

Прывітанне, рэдакцыя газеты "Волат"! Мне вельмі падабаецца ваша газета. Уёй размяшчаецца самая цікавая інфармацыя і да таго ж карысная. Вось я знайшоў час напісаць вам невялікае пісьмо-падзяку і паўдзельнічаць у конкурсе "Чым трэба ганарыцца беларусам?".

… Я жадаю Вам, каб Вы былі здаровымі, каб у Вас хапіла сіл друкаваць газету "Волат".

Чым трэба ганарыцца беларусам?

Беларусам патрэбна ганарыцца, папершае, сваімі краявідамі, вёскамі, рэкамі, азёраміі наогул, сваёй прыродай. Па-другое, беларусам патрэбна ганарыцца сваёй гісторыяй, сілай і розумам сваіх Продкаў, дзякуючы якім цяпер існуе такая краіна, як Беларусь. Дзякуючы ім яна ўваскрасала, як тая птушка Фенікс. Па-трэцяе, беларусам патрэбна ганарыцца тым, што на нашай маленькай зямлі людзі адчуваюць сябе спакойна, што яны бачаць над галавой блакітнае чыстае неба, не зацягнутае дымам вайны.

*Лавор Пётр, в. Хадасы*

Наша мова




Яшчэ адна фірма г. Вілейкі, як і кафэ «Цяністыя алеі», пра якое мы пісалі ў мінулым нумары, зрабіла шыльду на беларускай мове. Гэтая ўстанова гандлюе мэбляй і знаходзіцца па вул. Маркава (тэлеатэлье). Таму заклікаем вас набываць мэблю тут, дзе ў пашане родная мова.

## ШУКАЕМ СПОНСАРАЎ

**За выпуск кожнага асобніка газеты «Волат» №5 нам прыйшлося заплаціць па 240 рублёў. Прадаваць нашу газету мы не маем права. Таму, для працягу дзейнасці шукаем мецэната, які акажа выданню фінансавую падтрымку.**

**Запрашаем да супрацоўніцтва аўтараў, якія займаюцца краязнаўствамі гісторыяй Беларусі. Паважаныя чытачы, пішыце на адрас рэдакцыі, якія тэмы вам было б цікава бачыць на старонках «Волата»**

## Увага, конкурс!

**Рэдакцыя газеты "Волат" працягвае конкурс "Чым трэба ганарыцца беларусам?".**

**Аб`ём вашага меркавання не павінен быць вялікім (не перавышаць 20 сказаў).**

**Пасля падвядзення вынікаў лепшыя выказванні будуць надрукаваныя, а пераможцы атрымаюць прызы.**

**Дасылайце свае ідэі на адрас: 222410 г.Вілейка вул.Талстога 59/38.**

Жартачкі

Кожны год, калі мы ўшаноўваем памяць ахвяр палітычных рэпрэсій, то купляем бел-чырвона-белыя букеты з жывых кветак. Мы набылі два такія букеты і гэтым разам, але адзін з нашых сяброў вырашыў паехаць і купіць некалькі штучных (руск. – искусственных), каб яны даўжэй пастаялі. Ён пад'ехаў да прадаўца кветак і пытае:

– Скажыце ці ёсць у вас штучныя кветкі на магілкі?

А прадавец, які відаць не вельмі добра ведае беларускую мову, працягвае жывую кветку і кажа:

– Да есть, штучные, вот – штука полторы тысячи.

## Ад рэдакцыі

**Паважаныя чытачы, наклад нашай газеты толькі 299 асобнікаў. Таму, калі вы жадаеце яе атрымоўваць, пакіньце, калі ласка, свае каардынаты па адрасе:**

*222410 г. Вілейка, вул. Талстога, 59-38. Альбо па тэл.: 8-029-4070046*

## У наступным нумары:

- ✔ Рэкрутчына на Беларусі
- ✔ Працяг гісторыі пра камень Юзэфа Пілсудскага
- ✔ Янка Купала і БНР



Рэдактар: Аляксей Сюдак
Вёрстка: Міхал Кулеш
Карэктар: Зэльвэя Андрушкевіч
Адрас для допісаў:
вул. Л. Талстога, 59/38
222410, г. Вілейка.
Тэл.: 8-0296-964-360; 8-0294-070-046
E-mail: mihal_k@tut.by

Наклад 299 асобнікаў